*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 33 (89) ◈ 19 жніўня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ

*ПЕРШЫ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВЯЧАСЛАЎ КУЗНЯЦОЎ ЗРАБІЎ ДВУХДЗЕННУЮ РАБОЧУЮ ПАЕЗДКУ ПА ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ, дзе меў сустрэчы з кіраўніцтвам гаспадарак Пастаўскага, Докшыцкага раёнаў, вайсковых часцей. У Браслаўскім раёне было абмеркавана пытанне аб стварэнні нацыянальнага парку беларускага Паазер'я.*

**ПРАЗ МЕНСК ПРАЙШОЎ ШЛЯХ XVIII МІЖНАРОДНАГА МАРШУ САЛІДАРНАСЦІ «ЖЫЦЦЕ ДЗЕЛЯ ЖЫЦЦЯ».** У ім удзельнічала 220 чалавек, якія стартавалі на 55 аўтамашынах з Фларэнцыі, што ў Італіі, атрымаўшы блаславенне ад Папы Рымскага. Пасланцы Італьянскай Нацыянальнай Канфедэрацыі Мізерыкордзі (міласэрнасці) прывезлі ў Беларусь сваю дружалюбнасць і гуманітарную дапамогу. У Раўбічах, дзе быў зроблены прывал, удзельнікі маршруту падарылі спорткомплексу абсталяванне для медкабінета.

*У МІНІСТЭРСТВЕ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РБ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі з намеснікам старшыні Пастаяннага Камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў Сайфуддзінам, які знаходзіўся ў Беларусі з афіцыйным візітам. У час перагавораў асноўная ўвага была нададзена эканамічным пытанням. Кіраўніцтва КНР вырашыла выдзеліць Беларусі крэдыт у памеры 30 мільёнаў юаней.*

**ПА ПАПЯРЭДНІХ ЗВЕСТКАХ, ПАГРАНВОЙСКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ БУДУЦЬ НАЛІЧВАЦЬ 6 ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК, І НА ІХ УТРЫМАННЕ СПАТРЭБІЦЦА ШТОГОД 8 МІЛЬЯРДАЎ РУБЛЁЎ.**

*У ПАСЁЛКУ ЭНЕРГЕТЫК, ШТО ПАБЛІЗУ КОЙДАНАВА, пачаўся трэці сезон беларускага дзіцячага летніка «Грунвальд». З дзецьмі працуюць студэнты філфака і творчая моладзь.*

**СТВОРАНЫ АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСА.** Яго старшынямі выбраны прэзідэнт аб'яднання «Бацькаўшчына» народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў і міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка. У арганізацыйны камітэт увайшлі Старшыня Вярхоўнага Савета РБ Станіслаў Шушкевіч, віцэ-прэм'ер Міхась Дзямчук, мэр Менска Аляксандр Герасіменка, а таксама іншыя члены ўрада Беларусі.



*Зірніце на гэты здымак. Розныя постаці, асобы, людзі... Але, відаць, усім ім дарагі адзін ідэал — ідэал нашай дзяржаўнасці, нацыянальнага суверэнітэту. Інакай хіба ж аб'яднала б іх Плошча Незалежнасці?.. Якраз аб гістарычных вытоках беларускай дзяржаўнасці і пойдзе гаворка ў інтэрв'ю з гісторыкам права Язэпам Юхо.*

*Фота У. ПАНАДЫ.*

# Вытокі нашай дзяржавы

**У навуковым свеце Язэпа Аляксандравіча Юхо прадстаўляць наўрад ці трэба. Але наша чытацкая аўдыторыя ахоплівае больш шырокае кола людзей, таму скажам два словы пра гэтага вядомага беларускага вучонага. Язэп Юхо — прафесар, доктар юрыдычных навук, гісторык старажытнага права. Адна з буйных прац даследчыка — манаграфія «Крыніцы беларуска-літоўскага права», выдадзеная летась у Менску. Язэп Аляксандравіч уваходзіць у групу навуковых кансультантаў праекта будучай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.**

**А яшчэ дададзім, што капітан у адстаўцы Язэп Юхо прайшоў франтавымі сцежкамі Вялікай Айчыннай... Камандаваў агнявым узводам, пасля — батарэяй.**

**Гутарка з вучоным прысвечана аднаму найгалоўнейшаму пытанню: дзе, з чаго бярэ свой пачатак беларуская дзяржаўнасць?**

**— Язэп Аляксандравіч, паціху людзі ўжо пачынаюць усведамляць, што Беларусь як дзяржава вядзе радавод не са студзеня 1919 ды, тым больш, не з кастрычніка 1917...**

— Тое, што БССР — правобраз і сённяшняй дзяржавы, гэта, безумоўна, ніякіх сумненняў не выклікае. Але ж пачатак у ідэі беларускай дзяржаўнасці куды даўнейшы. І настолькі даўнейшы, што, кіруючыся інфармацыяй традыцыйнага школьнага падручніка, наўрад ці можна нешта лёгка ўявіць, усвядоміць.

**— І ўсё ж...**

— Мне б хацелася сказаць пра старажытныя нашы вытокі. Дзяржаўныя фарміраванні беларусаў, як і славян увогуле, маюць вельмі даўні пачатак. Яшчэ Герадот, апісваючы паход персідскага цара Дарыя на скіфаў у 513 годзе да нашай эры, згадвае будзінаў і неўраў — нашых прашчураў. Напярэдадні бітвы вяліся перамовы пароў неўраў і будзінаў са скіфамі. А хіба ж маглі быць цары ў неарганізаванай племяннной структуры?.. У больш позні час дрыгавіты (пасля — дрыгавічы) выбілі візантыйцаў з Балканскага паўвострава. Другая частка славян выбіла рымлян з тэрыторыі, дзе зараз жывуць сербы і харваты. А так званыя люцічы пацяснілі ў VI — VII стагоддзях немцаў. Дык хіба ж высокі ўзровень вайсковай арганізацыі не ёсць яркае сведчанне існавання на тэрыторыі славянскіх земляў дзяржаў?..

**— Але ж і дасведчанаму чытачу болей знаёма тое, што этнічная Беларусь была запалонена дробнымі княствамі...**

— Так, я згодзен з вамі. Ды толькі гэта было шмат пазней. Да таго ж побач з невялікімі самастойнымі дзяржавамі-княствамі меліся і буйныя аб'яднанні: Полацкае княства, Тураўскае, Гарадзенскае, Крэўскае... Каля Менска, праўда, шмат меншыя — Лагойскае, Заслаўскае... А ў XII — XIII стагоддзях у славян пайшоў працэс аб'яднання ў большыя дзяржавы. Асабліва хуткаплынным стаў ён у XIII стагоддзі. Адна з важкіх прычын — агрэсія, што насоўвалася на славянскія землі.

*(Заканчэнне на с. 2.)*

*У Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь адбылася прэс-канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел першы намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Міхась Мясніковіч, міністр абароны Рэспублікі Беларусь Павел Казлоўскі і начальнік Дзяржаўнага мытнага камітэта Генадзь Шкурдзь.*

*Міхась Мясніковіч адзначыў, што становішча ў эканоміцы Беларусі паправляецца. Мяркуецца ў гэтым годзе сабраць ураджай зерня 5,5—5,8 мільёна тон, але ўсё ж давядзецца рабіць закупкі. Ужо падпісана пагадненне з Казахстанам.*

# СТАЛІЦА НАША — МЕНСК

*(Заканчэнне. Пачатак у № 32).*

А тыя гаворкі, дзе «яць» пераходзіла ў *і* — толькі на Брэсцка-Пінскім Палессі. Так што гэтая «блізкасць» ні пры чым. Аб гэтым сведчыць адзінкавасць разглядаемага прыкладу, сістэма працуе якраз не на карысць замены *е* на *і* ў гэтым слове.

Паведаміўшы чытачам, што жыў-быў яшчэ дзесьці ў X—XI стст. а магчыма і ў XII—XIII стст. своеасаблівы гук *«яць»* і вузкае *е*, Рогалеў піша: «Можна меркаваць, што ў тапоніме *Мъньск* (1067, 1096 гады) і *Мънескъ* (1104, 1135 гады) літара *«яць»* перадавала якраз вузкі галосны *е*, вымаўленне якога набліжалася да *і*. А дзе сведчанні, факты? Імі магла б быць толькі наяўнасць гэтага гука ў іншых словах з аналагічнай пазіцыяй *е* (*белы, снег*), таму што фанетычны закон для аднаго вырванага з сістэмы слова не дзейнічаў, тым больш праз стагоддзі, бо да XVII стагоддзя ў жывых гаворках Беларусі *«яць»* ужо праясніўся ў *е*. Не меўшы гэтых фактаў, А. Рогалеў дапускае нейкі «ўплыў балцкага субстрату». Але ж дзе прыклады гэтых слядоў уплыву?

Затым А. Рогалеў дапускае, што ў XIV — XVI стст. тапонім *Мъньскъ* вымаўляўся з больш адкрытым, шырокім *е* — як *Менск*, што зразумела, калі ўлічыць фанетычныя заканамернасці ў рэалізацыі старога гука *«яць»* у паўночна-ўсходняй частцы беларускай дыялектнай тэрыторыі. Не даказаўшы фанетычных заканамернасцей, павадзіўшы чытача вакол гэтага таемнага гука *«яць»*, А. Рогалеў смела робіць вывад, што ў XVI — XVII стст. «паступова запанавала напісанне *Мінск*, што безумоўна адлюстроўвала *рэальнае і старадаўняе вымаўленне саміх мінчукоў»* (вылучана намі — Г. Ш., І. К.). А дзе факты? Дзе прыклады пераходу (вымаўлення) *«яць»* у націскной пазіцыі ў беларускай мове? Дзе словы *білы, дзіці, сміх?*

У сапраўднасці форма *Мінск* узнікла не па законах беларускай фанетыкі, а па іншых прычынах. Прычыны гэтыя не лінгвістычныя, а сацыяльна-гістарычныя. Думаецца, невыпадкова ў спробе даказаць першароднасць формы *Мінск*. А. Рогалеў пакідае па-за ўвагай гістарычныя факты: калі, з якой інтэнсіўнасцю пранікае форма *Мінск* у беларускую пісьменнасць, дакуль дажыла форма *Менск*.

Дарэчы, важнай крыніцай пра першапачатковую назву цяперашняй сталіцы Беларусі з'яўляецца летапіс «Повесть временных лет». Там пад 1067 годам гаворыцца, што войскі трох кіеўскіх князёў братоў Яраславічаў выступілі ў паход супраць полацкага князя Усяслава. Працытуем адпаведнае месца паводле Іпацьеўскага спісу: «И придоша ко *Мъньску*, и *мъняне* затворишася вь градъ. Си же братья взяша *Мънескъ...»* Затым у летапісе апавядаецца, што Яраславічы, узяўшы *Мъньск*, пайшлі да Нямігі, дзе адбылася бітва.

У прыведзенай цытаце звяртаюць увагу дзве назвы аднаго горада *Мъньск* з *«ерь»* (мяккі знак) і *Мънескъ*, а таксама назва жыхароў горада *мъняне*. Ва ўсіх трох выпадках у першым складзе прысутнічае літара *ъ («яць»)* Што яна абазначала? Звернемся да энцыклапедычных выданняў. Тлумачэнне ўсюды прыводзіцца прыкладна аднолькавае. Вось што гаворыцца ў БелСЭ: *«яць* назва кірыліцкай літары, якая абазначала ў стараславянскай і старажытнарускай мовах своеасаблівы галосны гук, падобны на закрыты *е*, а магчыма на дыфтонг *іе*. У старабеларускай пісьменнасці выкарыстоўвалася па традыцыі, часта замянялася літарай *е*, бо ў б о л ь ш а с ц і б е л а р у с к і х г а в о р а к г э т ы г у к р а н а с у п а ў з *е*, або наблізіўся да яго» (разрадка наша — Г. Ш., І. К.). Правільнасць такога тлумачэння пацвярджаюць больш познія дакументы. Так, у Радзівілаўскім летапісе ў паведамленні 1067 года назвы *Меньск* і *Менеск* напісаны без *«яць»*, праз *е*.

Цяпер большасць спецыялістаў па тапаніміцы абгрунтавана лічыць, што назву сваю горад атрымаў ад ракі. *Менск* — гэта *«Менскі горад»*, «горад на рацэ *Мень (Мена)»*. Такая сувязь паходжання імя горада ад ракі з'яўляецца тыповай і заканамернай. Спрэчкі ідуць аб тым, дзе знаходзілася гэтая рака: на тэрыторыі сучаснага горада ці побач з ім у вярхоўях Пцічы.

*Менеск* разам з шматлікімі іншымі гарадамі Беларусі пералічаны ў спісе гарадоў канца XIV стагоддзя. У наступным — з'яўляецца і назва *Менск*. Напомнім, што ў 1499 годзе ў «Привилеи месту *менскому* на право майдеборскае...» прыводзіцца толькі форма *мен(ь)ский*. Але яшчэ ў XVI — XVII стст. працягвала шырока выкарыстоўвацца таксама форма *Менеск*. Уяўляе цікавасць перапіска 1656 года маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча і менскага ваяводы Фёдара Арсеньева. На адной старонцы царскай граматы формы *Менеск, Менск, Менскага* выкарыстаны 18 разоў і ніводнага разу — *Минск*. У двух «адпісках» менскага ваяводы Арсеньева цару назвы *Менеск, Менск, Менского* (повету) сустракаюцца 13 разоў і толькі аднойчы напісана *Минской* пов(ет).

У «адпісцы» 1657 года менскага ваяводы Якаўлева цару гаворыцца: «И того ж, государь, числа *Менского* пов. шляхта учинила в *Менске* сеймик и выбрали меж себя в судьи *Менского* шляхту Федора Волотковича...» («Белоруссия в эпоху феодализма». Т. II. Мн., 1960. С. 146—151). Адсюль вынікае, што мясцовая беларуская шляхта карысталася назвай *Менск* і іншай назвы ваявода Якаўлеў, мабыць, не чуў.

Звернемся да беларускіх сярэднявечных хронік. Усе летапісы XV — XVI стст. кірыліцкага алфавіту падаюць толькі формы з *е (Менеск, Менска)*. Хроніка Быхаўца (XVII ст.) дайшла да нас у польскай транскрыпцыі. Яна была перапісана ў канцы XVII — пачатку XVIII стст. лацінкай з больш даўняга кірыліцкага тэксту. Асноўная частка хронікі напісана беларусам, блізкім да князёў слуцкіх. У хроніцы нормай з'яўляюцца тэрміны к *Менску*, у горад *Менск* і толькі раз ужыта до *Мінска*.

У Баркулабаўскай хроніцы — помніку беларускага летапісання пачатку XVII стагоддзя,— горад названы сем разоў, з якіх шэсць — у форме *Менск* і адзін раз — *Минск*.

У вядомага польскага храніста пачатку XVII стагоддзя М. Стрыйкоўскага пры апісанні падзей 1506 года выкарыстоўваецца форма *Менск*, у Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 года — афіцыйным зборы законаў — пасол названы *Мен(ь)ским* (раздзел III, арт. 7).

Аднак у польскамоўных дакументах XVI — XVII стст. усё часцей ужывалася напісанне *Мінск*. Сведчанне гэтаму даюць таксама лацінамоўныя карты. На карце 1589 года М. Струбіча з «Палоніі» горад абазначаны *Мінско*, на карце Вялікага княства Літоўскага, выдадзенай Хрыстафорам Радзівілам у 1613 годзе — *Мінск*, таксама і на карце Вялікага княства Літоўскага і Русі Белай 1687 года, надрукаванай у Нюрнбергу.

У прыватным дакуменце 1601 года на польскай мове, які захоўваецца ў Цэнтральным архіве старажытных актаў у Маскве (ф. 389, кн. 290, л. 176—178) у скарзе пана Цярлецкага на бурмістраў «мяста *Мінскага*» назва горада напісана некалькі разоў у тыповай польскай транскрыпцыі праз *і*.

Чытачоў, якія цікавяцца фактамі, адсылаем яшчэ да артыкула М. Спірыдонава «І ўсё ж такі — Менск! (Назва горада ў пісьмовых крыніцах XV — XVI стст.)», надрукаванага ў «Навінах беларускай акадэміі» 10 студзеня 1992 года.

З прыведзеных гістарычных фактаў напрошваецца выснова, што наш Мінск з'явіўся пад уплывам таго, іншага, Мазавецкага, у часы іх быцця ў адной дзяржаве — Рэчы Паспалітай.

Замена беларускай назвы *Менск* на польскую форму *Міньск* адбывалася паступова пад уплывам польскай мовы, польскай арфаграфіі па афіцыйнай дзяржаўнай дарозе. Пасля таго як трывала ўвайшла ва ўжытак форма *Міньск* (Мазавецкі) у дакументах адной дзяржавы, праз гадоў сто, у канцы XVI — пачатку XVII стст. пачынае і ў нашых дакументах пісацца *Мін(ь)ск* прымяняльна да нашага горада, з нарастаннем к сярэдзіне XVII стагоддзя, але не знікла і ранейшае напісанне. Цалкам беларуская форма знікае з афіцыйных дакументаў толькі ў XVIII стагоддзі, калі беларуская мова была зусім выцеснена з дзяржаўнага справаводства. А пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII стагоддзя назва нашага горада ў польскім напісанні пераносіцца ў расійскія дакументы і карты і працягвае функцыяніраваць ужо з расійскім *и* — *Минск*.

Аднак у жывой мове, на Меншчыне перш за ўсё, спрадвечная назва *Менск* працягвала існаваць і ў XIX стагоддзі. Гэта засведчылі славутыя даследчыкі П. Шпілеўскі і А. Ельскі (сам з Меншчыны). Як піша П. Шпілеўскі, паводле народнай тапанімічнай легенды, горад *Менск* быццам атрымаў сваю назву ад імя заснавальніка горада — асілка і чараўніка Менеска. У старадаўнім выслоўі, запатаваным П. Шпілеўскім, гаварылася: «Не пайду я да *Менска* ад шляху Віленска, а калі ж пайду па шляху Віленскім, спаткаюся з Менескам». Славуты польскі энцыклапедычны даведнік «Слоўнік геаграфічны...» у артыкуле выдатных знаўцаў Беларусі А. Ельскага і А. Хмары (у 6-м томе на с. 453) паведамляе: «Міньск званы таксама Міньскем Літэвскім... у н а р о д н а й г а в о р ц ы *М е н с к»* (вылучана намі — Г. Ш., І. К.). Гэта пісалася ў 1885 годзе, на схіле XIX стагоддзя. Проста дзіўна, як тапаніміст А. Рогалеў адважыўся праігнараваць сведчанне такой аўтарытэтнай, вядомай яму крыніцы і напісаць, што ў XVI—XVII стст. напісанне *Мінск* «безумоўна, адлюстроўвала рэальнае і старадаўняе вымаўленне саміх мінчукоў». Шкада, што яшчэ раз не можа выказацца менчук А. Ельскі. Тым больш дзіўна, што пасля таго, як пра гэтае сведчанне А. Ельскага было нагадана (гл. рубрыку «Беларушчына» ў «Звяздзе» за 27 сакавіка 1992 г.), а ў «Звяздзе» за 17 красавіка 1992 года былі апублікаваны Я. Войнічам архіўныя звесткі, што нават у час скасавання нашай назвы на Меншчыне яшчэ гаварылі *Менск*, А. Рогалеў заяўляе, што ўжыванне формы *Мінско* ў лацінамоўнай канцылярскай кнізе караля Аляксандра пад 1502 годам «не чым іншым, як адпаведнасцю мясцоваму вымаўленню, гэты факт лічыць нельга».

А што мы маем на пачатку XX стагоддзя? У першым нумары «Нашай долі» (1906 г.) на пятай старонцы чытаем: «З Белоруссии и Литвы Новагрудок (Менск. губ.)». Праўда, такое ўжыванне спачатку было непаслядоўным, залежала ад таго, як наш горад называў аўтар допісу. У № 2 маем «у... Минской губ.»; у № 4 — «З Игуменьского павету *Менскай* губ.». Так было і ў нумарах «Нашай Нівы»: «Мяст. Плешчэніцы (Борысоўскага п. *Менск.* губ.) («Н. Н.», № 3, 1906). У № 6 чытаем: «З Минску. Газета «Русь» пішэ, што ў Минску...» (с. 5). А трохі ніжэй: «З мястэчка Заслаўя. *Менск.* губ.;... архірэй з *Менска* прыслаў чалавека; ... пры *менскай* сэмінарыі».

Прэс дзяржаўнай, расійскай мовы быў настолькі моцны (ды і польская з другога боку падпірала), што ў кволай дарэвалюцыйнай беларускай прэсе форма *Менск* не стала пераважнай. Яна толькі прабіла сабе дарогу.

Першы дзяржаўны акт Савецкай Беларусі — вядомы «Маніхвэст часовага работніча-сялянскага правіцельства Беларусі» ад 1 студзеня 1919 года прыдае форме *Менск* па сутнасці юрыдычную сілу.

Такім чынам, наша спрадвечная назва *Менск*, выцесненая з беларускай афіцыйнай мовы польскімі і расійскімі асімілятарамі, жыла ў народнай мове, была вернута ў мову дзеячамі беларускага Адраджэння на пачатку XX ст., аднак у 1939 годзе была «рэпрэсіравана» рашэннем 2-ой сесіі Вярхоўнага Савета БССР і знаходзілася з таго часу пад забаронай. Цяпер настаў час рэабілітаваць яе, скасаваць тую пастанову, якая замяніла наш *Менск* на польскую назву *Мінск*. Гістарычная справядлівасць патрабуе адрадзіць нацыянальную назву сталіцы незалежнай Рэспублікі Беларусь — *Менск*.

**Георгій ШТЫХАЎ,**
**доктар гістарычных навук;**
**Іван КРАМКО,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# «БЕЛАРУС'ЕН РЭВ'Ю» — АМЕРЫКАНЦАМ ПРА БЕЛАРУСЬ

Досыць даўно на старонках «Нашага слова» не друкаваўся агляд англамоўнага штоквартальніка, што выдаецца Беларуска-амерыканскім Задзіночаннем у Злучаных Штатах. Гэта тлумачыцца пэўнымі цяжкасцямі, звязанымі з перасылкай выданняў з-за мяжы. Але цяпер, здаецца, паштовыя сувязі сталі наладжвацца, і будзем спадзявацца, што ў далейшым сістэматычна будзем змяшчаць агляд гэтага выдання. Чарговы нумар штоквартальніка пачынаецца, як заўсёды, рубрыкай «Слова ад рэдакцыі», дзе прыводзяцца цытаты з лістоў чытачоў, друкуецца іншая цікавая інфармацыя.

З нумара ў нумар часопіс паглыбляе веды чытачоў пра Беларусь. Гэтым разам пад рубрыкай «Погляды» са сваім артыкулам «Беларуская эканоміка» выступае Арт Турэвіч. Яго матэрыял утрымлівае агульныя звесткі пра нашу краіну і, акрамя таго, дае больш поўнае ўяўленне пра яе эканоміку ў 1991 і на пачатку 1992 года.

Надзвычай цікавай з'яўляецца рубрыка «Думкі і назіранні». Публікацыя рэдактара бюлетэня Джо Прайса, у якой ён імкнецца адлюстраваць стан беларускай эканомікі ў пераходны перыяд да рынку, змяшчае вытрымкі з выступленняў і інтэрв'ю В. Кебіча, адлюстроўвае пункты погляду на гэтую праблему прэзідэнта Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь С. Багданкевіча і дэпутата парламенцкай апазіцыі М. Крыжаноўскага, расказвае пра замежную эканамічную дапамогу былым рэспублікам Савецкага Саюза.

У рубрыцы «Фрагменты з беларускай гісторыі» перадрукаваны з газеты «Москаў ньюс» артыкул Алеся Адамовіча «Беларусам было досыць».

Рубрыка «Спадчына Чарнобыля» цалкам прысвечана 6-ай гадавіне Чарнобыльскай катастрофы: у ёй змешчана інфармацыя з шэрагу амерыканскіх і беларускіх выданняў.

У рубрыцы «Беларускае замежжа» шмат увагі аддаецца святкаванню амерыканскімі беларусамі Дня незалежнасці Беларусі 25 сакавіка, хроніцы іх культурнага жыцця. Тут змешчаны віншаванні з Днём незалежнасці Прэзідэнта ЗША Дж. Буша, кангрэсмена Дана Рорабакера, сенатара Біла Брэдлі. Ніжэй мы прапануем нашым чытачам віншавальны тэкст Дж. Буша ў перакладзе на беларускую мову:

Белы Дом
Вашынгтон, 27 сакавіка
1992 г.

Мне вельмі прыемна павіншаваць усіх амерыканскіх беларусаў з 74-ай гадавінай з дня абвяшчэння Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Неўзабаве пасля таго, як Беларусь абвясціла сваю Незалежнасць у 1918 г., нацыянальны ўрад быў скінуты камуністычнымі сіламі. Сёння мы падзяляем Вашу радасць ад таго, што камунізм пацярпеў крах і законным чынам адноўлена самакіраванне на Вашай Бацькаўшчыне.

Я маю тут цудоўную магчымасць прыгадаць тыя агульныя прынцыпы, што аб'ядноўваюць народы Беларусі і ЗША у свабодзе, а таксама пра нашыя культурныя сувязі.

Нягледзячы на тое, што перад Беларуссю паўстала шмат складаных задач, я ўпэўнены, што вялікая любоў да свабоды і незалежнасці, патрэбу ў якіх адчуваў беларускі народ на працягу больш як сямі дзесяткаў год таталітарнага рэжыму, будзе садзейнічаць мірнаму пераходу да дэмакратыі, на шляху да якой ён знаходзіцца.

Барбара і я шлём самыя лепшыя пажаданні ўсім, хто святкуе гэтую гістарычную падзею — вызваленне Беларусі.

Благаславі вас Божа.

**Дж. БУШ.**

**Публікацыю падрыхтавала Л. Баршчэўская.**

## «Часопіс»

Выйшаў чарговы нумар (7—8) беластоцкага «Часопіса». На гэты раз з беларускамоўных матэрыялаў у выданні друкуюцца нататкі Васіля Петручука «Уцякач», у якіх аўтар прыводзіць прыклады адносін да беластоцкіх беларусаў «розных савецкіх грамадзян, якія ніколі не верылі сваім, а заўсёды — чужым. Адны нам не верылі, а другія баяліся, як чорт крыжа. Аб чым жа сведчыць факт, што на працягу дзесяткаў гадоў не заглянуў да БГКТ ніхто з афіцыйных прадстаўнікоў пасольства ці савецкіх консулятаў? Яны баяліся, што палякі прызнаюць іх «персонамі нон грата» і выганяць у Расію. Калі не намыляюся, дык першым, хто асмеліўся наведаць Беласток і даведацца, што тут жывуць беларусы, быў генеральны консул Хведар Міціцел. Але гэта вельмі нядаўна». Але ці ж не такая доля ў беларусаў у самой Беларусі, многія з якіх звыкліся з тым, што яны насельнікі адной з губерняў вялікай Расіі, дзе лічыцца, што беларусаў няма як нацыі?

«Здарэнне з гісторыі бельскіх званоў» — так назваў свой запіс М. Сахарэвіч.

«Часопіс» змяшчае «Каляндарыюм святаў» на ліпень і жнівень. З літаратурных твораў друкуецца апавяданне Міры Лукшы «Клінок».



# Іх здзіўляла дакладнасць назваў

Яшчэ ў сярэднявеччы прыхільнікі вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў зацікавіліся адметнымі мясцовымі словамі. Збіранне іх, складанне слоўнікаў народных гаворак для краязнаўцаў стала абавязковай формай знаёмства з духоўнай і матэрыяльнай культурай народа. Менавіта з агульнага народазнаўства і вылучыліся ў XIX стагоддзі беларускае мовазнаўства, а пасля і дыялекталогія. «Мясцовыя» словы сталі аргументам пацвярджэння самабытнасці краю. Іх часта выкарыстоўвалі аўтары летапісаў, перапісчыкі хронік, нават дзелавых папер. Ажыўлялі кніжную, стараславянскую мову эмацыянальнай узнёсласцю і каларытам народных гаворак Францішак Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Хведар Еўлашоўскі. Пра адметнасць беларускага слова згадвалі ў сваіх мемуарах замежныя падарожнікі. Асабліва здзіўляла іх дакладнасць тапанімічных назваў. Краязнаўчыя звесткі выкарыстаў Л. Зізаній у сваім «Лексісе...» — першым друкаваным беларускім слоўніку (Вільня, 1596). Звесткі па гісторыі, геаграфіі, прыродзе нашага краю аблягчалі разуменне стараславянскай мовы, набліжалі яе да жывой мовы народа, пашыралі асвету.

З развіццём краязнаўства на Беларусі ў XIX стагоддзі даследчыкі матэрыяльнай і духоўнай культуры сталі часцей звяртацца да народнага слова як да асновы нацыянальнай самабытнасці. Гэтаму спрыялі навуковыя гурткі, таварыствы, Віленскі універсітэт (1579), а пасля яго закрыцця ў 1832 годзе — Рускае геаграфічнае таварыства (1845), Віленская Археалагічная камісія (1855), Віленская Археалагічная камісія (1864) ды іншыя. Над кароткім слоўнікам беларускай мовы працаваў К. Ф. Калайдовіч. Прафесар Віленскага універсітэта І. М. Лабойка прапанаваў збіраць матэрыялы старабеларускіх помнікаў пісьменства і сам працаваў над такім слоўнікам. Польскі лінгвіст С. Ліндэ ў 1816 годзе завяршыў даследаванне мовы «Статута Вялікага княства Літоўскага», у якім знайшоў уплыў народнай гаворкі. Ён жа працаваў над праектам агульнаславянскага слоўніка. Хоць у яго рэестры беларуская мова не значылася, аднак яна туды трапіла (свавольнік, заносны, наскочыць, іглісты, хідаваты, безвыходны, высокадзяржаўны, здружыць, лагодны, шукальны і іншыя). Былі падрыхтаваны «Збор слоў літоўска-рускай гаворкі» Ф. С. Шымкевіча (1838), «Слоўнік заходнерускай гаворкі» І. І. Грыгаровіча (літары А, Б, В — 1851) — па даручэнні Румянцаўскага гуртка і Віленскага універсітэта, «Беларускія словы» С. П. Мікуцкага (1854), «Вопыт слоўніка беларускай гаворкі» Е. Р. Раманава (1876) і інш. Разам з запісамі помнікаў старажытнасці вёў слоўнік іх народных назваў З. Даленга-Хадакоўскі. П. Шпілеўскі, М. Баброўскі, І. Ярашэвіч і іншыя краязнаўцы ілюстравалі ўзровень матэрыяльнай культуры беларусаў багаццем іх бытавой лексікі.

З 1850-ых гадоў настаўнік М. А. Дзмітрыеў дасылаў Рускаму геаграфічнаму таварыству запісы народнай мудрасці, апісанні дажынкавых абрадаў, Купалля, а таксама і складзены ім алфавітны паказальнік мясцовых слоў з іх філалагічным тлумачэннем. Сакратар дваранскай зборні Віленскай губерні І. Струміла, вядомы на Беларусі садавод, агароднік, пчаляр, кветкавод, напісаў шэраг прац, у якіх даў некаторыя мясцовыя назвы сваіх аб'ектаў даследавання. У прыватнасці, у «Слоўніку кветак» (1837) знаходзім браткі, васількі, лілеі.

У 1864 годзе ў сваім маёнтку Замосце (цяпер Пухавіцкі раён) А. К. Ельскі стварыў літаратурна-краязнаўчы музей. У яго фондах было каля 7 тысяч кніг, 20 тысяч рукапісаў, больш за тысячу гравюр, мноства розных рэчаў, тысячы запісаў беларускага фальклору, дыялектнай лексікі. У «Геаграфічным слоўніку зямель польскіх і іншых краёў славянскіх» краязнавец А. Ельскі апісаў мясцовасці амаль усіх беларускіх паветаў. Ён выдаў працы «Пра беларускую гаворку» (1885), «Слоўнік жабрачае гаворкі на Белай Русі» (1886), «Слова пра матэрыялы для вывучэння беларускай гаворкі, этнаграфіі і літаратуры» (1886), зборнік «100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў для пажытку беларускага (крывіцкага) народа» (1908), пераклаў на беларускую мову 1-ую частку «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча (1892).

У 1872 годзе Е. Р. Раманаў паведаміў Акадэміі навук, што сабраў 2000 слоў для «Вопыта беларускага слоўніка» і напісаў раздзел граматыкі як уступ да яго. Гэтую працу ён працягваў яшчэ доўга, адбіраючы самыя трапныя словы жывой беларускай мовы для свайго шматтомнага «Беларускага зборніка». Менавіта і пачынаў Раманаў запісы фальклору ў якасці ілюстрацыі да задуманага слоўніка беларускай мовы. З пазіцый заходнерускай ідэалогіі збіраў матэрыялы па беларускай мове археолаг К. А. Гаворскі, пра што сведчыць яго артыкул «Некалькі слоў пра беларускую мову» («Віцебскія губернскія ведамасці», 1857—1858 гг.). Віцебскі краязнавец і этнограф А. М. Семянтоўскі склаў слоўнік мер і вагаў, якія ўжываліся на Падзвінні ў XIX стагоддзі (аршын, бярковец, бочка, вядро, вяршок, гарнец, чвертка, пура, увалока, цаль, асьмініна, асьмушка і іншыя). Ю. Ф. Крачкоўскі ў ваколіцах Маладзечна, Крэва, Ашмянаў запісваў назіранні народнага побыту і творчасці, звяртаў пры гэтым увагу на характэрнасць лексікі і рабіў асобныя выпіскі. Пачынаў з краязнаўчых захапленняў багаццем народнай мовы Магілёўшчыны І. І. Насовіч, аўтар вядомага «Слоўніка беларускай мовы» (1870). Не абыходзілі народнае слова Я. Тышкевіч, К. Тышкевіч, Ул. Сыракомля, Ф. Вярэнька, М. Саковіч, М. Федароўскі, І. Берман, А. Сапуноў, Я. Ляцкі, І. Сербаў. Слоўнік беларускай мовы рыхтаваў Ф. Багушэвіч. На Палессі складаў граматыку беларускай мовы святар П. М. Ціхановіч.

У пачатку XX стагоддзя дырэктар Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі А. В. Ярушэвіч актыўна працаваў над слоўнікам беларускай мовы, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь. Сярод найкаштоўнейшых мовазнаўчых прац — «Смаленскі абласны слоўнік» У. М. Дабравольскага (1914), «Северска-беларуская гаворка. Даследаванне ў галіне «дыялекталогіі і гісторыі беларускіх гаворак» (1927) П. А. Растаргуева. Шмат краязнаўцаў далучалася да працы тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта. Больш за 10 тысяч картак мясцовай лексікі прывёз з в. Дакудова Крупскага раёна настаўнік П. А. Самцэвіч. Яе збіралі З. Бядуля, І. К. Бялькевіч, М. А. Грамыка, А. І. Александровіч і іншыя.

У Заходняй Беларусі над слоўнікамі беларускай мовы працавалі Л. Войцік (Зоська Верас), Я. Станкевіч, Я. Н. Драздовіч, Б. Друцкі-Падбярэскі, Я. Багдановіч, М. Пецюкевіч, у Літве — В. Ластоўскі, у Латвіі — С. Сахараў.

У пасляваенны час зварот да краязнаўча-дыялектных слоўнікаў не заахвочваўся. Але ні навукоўцы, ні краязнаўцы не цураліся народнага слова. І таму сёння мы маем «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» ў 5 тамах (1979—1986), «Тураўскі слоўнік» у 5 тамах (1982—1987), «Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» пад рэд. М. А. Жыдовіч (выпускі 1-3, 1970—1977) ды інш. Надрукаваны і зборы ўзораў народнай лексікі, словатворчасці. Над слоўнікамі беларускай мовы працавалі, незалежна ад дзяржаўных устаноў, краязнаўцы В. І. Чарняўскі (в. Вішнева, Валожынскі раён), І. У. Саламевіч (Менск), М. Ф. Александровіч (Маладзечна), І. Прач (Светлагорск), А. М. Белакоз (в. Гудзевічы, Мастоўскі раён), В. Шоць (Смаргонь), Я. Ф. Чаплінская (в. Літва, Маладзечанскі раён), В. І. Драгун (в. Пасекі, Смаргонскі раён). М. І. Лазар (Маладзечна) склаў «Слоўнік старых беларускіх прафесій», тэрміналогія якіх выйшла або выходзіць з ужытку — каля 150 назваў. Ім жа складзены і слоўнік забытых беларускіх асабовых імён.

**Г. А. КАХАНОЎСКІ.**

*Беларускія імёны*

# І падрос і вырас Янучок, але Янкам не стаў

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 31, 32).*

Імёны, якія прыйшлі да нас разам з хрысціянствам, былі засвоены беларускай моўнай стыхіяй. У гэтым выпадку праявілася «магутнасць» нашай мовы, што, як вядома, заключаецца не ў тым, што яна нічога не пазычае, а ў тым, што ўсё пазычанае пераладжвае на свой капыл. Мікалай Васільевіч Бірыла ў кнізе «Беларуская антрапанімія» (частка 3, Мн., 1982) пералічвае змены ў праваслаўных хрысціянскіх імёнах, якія абумоўлены асаблівасцямі фанетычнай сістэмы нашых гаворак. Прыкладам, у выніку акання змяніліся пачатковыя [е], [иа], [ие], [ио], [иу]: Аўсей, Яўсей (Евсевий), Аўхім, Яўхім (Евфимий), Якаў (Иаков), Язэп, Есіп (Иосиф), Еронім, Яронім (Иероним), Усцін, Юстын (Иустин).

А з-за таго, што ў нашай мове няма гука [ф], на яго месцы з'явіліся [х], [хв], [п]: Ахрэм (Ефрем), Хама (Фома), Рахвал (Рафаил), Пілімон (Филимон). Цікавае пераўтварэнне адбылося з імем Феодор. Яно ў нас вядома ў некалькіх мадыфікацыях: Ходар, Хведар, Фёдар, Тодар. Як тут не згадаць вядомае з дзяцінства: ішлі Тодар з Тадораю, знайшлі лапаць з абораю... Імя Тодар меў, верагодна, вядомы маскоўскі першадрукар Іван Фёдараў. Пра гэта піша маскоўскі даследчык Яўген Львовіч Неміроўскі ў кнізе «Иван Фёдоров в Белоруссии» (М., 1979). Ён звяртае ўвагу на запіс у метрыцы Кракаўскага універсітэта «Йоаннес Тэодорі дэ Петкавічы» і перакладае гэты запіс як «Іван сын Фёдара з Петкавіч». Я. Л. Неміроўскі перакананы: «Запіс можна аднесці толькі да Івана сына Фёдара Масквіціна, атрымаўшага ступень бакалаўра ў 1532 годзе, бо іншых Іванаў Фёдаравых метрыка Кракаўскага універсітэта за першыя чатыры дзесяцігоддзі XVI стагоддзя не ведае». Згаданыя Петкавічы маглі быць адной з вёсак Баранавіцкага, Дзяржынскага, Маладзечанскага раёнаў, што носяць такую назву. З нашых жа краёў паходзілі і шляхецкія роды Рагозаў і Анфоравых, што мелі герб «Шрэнява». Выява менавіта гэтага герба на помніку Івану Фёдараву ў Маскве, на яго выданнях. І Я. Л. Неміроўскі робіць выснову: «Калі атаясамліваць першадрукара Івана Фёдарава з Іванам сынам Фёдара з Петкавіч, трэба прызнаць беларускае паходжанне друкара».

Як можна пераканацца, форма імя, яго напісанне — важнае дакументальнае сведчанне. А таму не ўтрымаюся, каб не зазірнуць у граматы, якія падаюцца ў «Гісторыі Сібіры» Г. Ф. Мілера (т. II, М.—Л., 1941). І там таксама можна знайсці сведчанне, як калісьці называлі нашу краіну, хто такія былі «літва», якія імёны мелі яны.

Як вядома, у выніку шматгадовай вайны паміж Масковіяй і Вялікім княствам Літоўскім дзесяткі тысяч абаронцаў беларускіх гарадоў былі сасланы на ўсход. Трапілі яны і ў Сібір, якую ў той жа час заваёўвалі расіяне. Палонных беларусаў інакш не называлі, як толькі літвінамі. У згаданым томе яны згадваюцца больш за 50 разоў. Імёны і прозвішчы літвінаў — тыпова беларускія: Вішнеўскі Матвей, Валашэніны Фёдар і Багдан, Высоцкі Яцка, Грыцкоў Клім, Захар'еў Багдашка, Крушынскі Меркурый, Куча Янц («пленный литвин»), Міхайлаў Грыша («...да в толмачех Грише Михайлову, литвину...»), Мурамцаў Бурнаш («литовский казак»), Арэхаў Мікалай (не Николай, а менавіта Миколай), Слонскі Сямён, Станіславаў Барташ. У Пелымскім горадзе была нават літоўская слабада.

А побач з літвінамі сустракаем на старонках сібірскіх грамат і літву: «Пожаловали есмя тюменских служивых людей: литву, и атаманов, и казаков, и стрельцов...» (1596, 1600, 1607, 1636 ды іншыя гады). А вось у грамаце ад 5 красавіка 1614 года ясна напісана, хто быў «літвою»: «...да с литвою з Давытковым Микифором да с Микиткою Оксеновым...» Вядомы і іншыя «літоўскія» камандзіры: «...Кропотов Андрей, литовский ротмистр», «...Станиславов Бартош, литовский ротмистр...» (З «Гісторыі Сібіры» вынікае, што літва — прафесійныя вайскоўцы, якія служылі таму, хто плаціў. А што да імёнаў і прозвішчаў літвы, то варта спаслацца на згаданае даследаванне М. В. Бірылы: «У беларускіх крыніцах зафіксаваны...»: Оксентей, Оксен (с. 10)... Давыдка (с. 57)».

Значна пазней, з распаўсюджаннем на нашых землях каталіцтва, з'явіліся ў беларусаў і лацінскія імёны. (Цікавы прыклад, як яны ўжываліся разам з грэчаскімі, можна знайсці ў кнігах Брэсцкага суда. Там згадваюцца Касцюшкі Сехнавіцкія — Веспазіян і Хрызастом). За ўзор браліся імёны славутых рымскіх імператараў, ваяводаў, святых: Веспазіян, Канстанцін — рымскія імператары першага стагоддзя н. э., Гервазій і Пратазій (стаў на Беларусі Пратасам) — святыя, браты-блізняты, першыя хрысціянскія мучанікі Мілана (як бачым, кожная рэлігія ахвотна выкарыстоўвала матывы адначасовай смерці блізнятаў: у праваслаўнай царкве ёсць адпаведнікі — Барыс і Глеб), Юлій, Януарый...

З'яўленне чужых імёнаў спрычынілася і да страты нацыянальнай свядомасці беларусаў. Старажытныя, спрадвечныя імёны, як, прыкладам, Воўк (Волк Белевич), Волас (Волос Корчич), Жук (Жук Сенютич) не толькі мянялі на новыя, як кажуць цяпер — модныя, але і ўяўлялі сабе, што разам з чужым, славутым імем задарма бяруць і нейкі, уяўны, вядома, гонар. Імёны пачыналі траціць сваю непасрэдную функцыю ідэнтыфікацыі асобы і пачалі станавіцца прыкметай адметнасці, «вышэйшага» паходжання. У наш час гэтае «лепшае» паходжанне звязваюць з іншай нацыяй.

**З. СІЦЬКО.**

# ЗАЎВАГІ ДА «НАТАТАК...»

***У «Нашым слове» (№ 29) надрукаваны артыкул Алеся Яжэвіча «Нататкі да некаторых пытанняў...». Аўтар, заклапочаны станам роднай мовы, эмацыянальна перадаў свае прапановы, што датычаць вырашэння некаторых надзённых праблем, якія стаяць перад беларускім мовазнаўствам. Мы атрымалі першы водгук...***

Добра разумею, што газета «Наша слова» адрасавана не прафесійным лінгвістам, літаратуразнаўцам ці гісторыкам. Але яе, як мне вядома, чытаюць і навукоўцы. Нават не зважаючы на тое, хто будзе трымаць газету ў руках, не варта разлічваць на нейкага «сярэдняга» чытача, а друкаваць матэрыялы грунтоўныя. Вось у нумары дваццаць дзевятым А. Яжэвіч, аўтар «Нататак да некаторых пытанняў...», прапануе адны лексемы, літары, гукі, граматычныя формы замяніць іншымі, на яго думку, больш прыдатнымі для беларускай мовы. Некаторыя такія інавацыі тлумачацца, але большасць даецца без якіх-небудзь абгрунтаванняў. Чаму, напрыклад, *пралетар* лепш за *пралетарый, фаўна* — за *фауна, прэзідыюм* — за *прэзідыум, трэвога* — за *трывога?* Тлумачэнне, відаць, толькі адно: аўтару так хочацца, падабаецца. Але ж прабачце, гэта, як кажуць, не той жанр. Ці, у стылі А. Яжэвіча, «жанар»? Я, напрыклад, не веру, каб праз 50 і праз 100 гадоў беларусы вымаўлялі, а тым больш пісалі *нэгар, дубаль, мэтар*. Такія прыклады эпентэзы галоснага гука ў спалучэннях двух зычных, адзін з якіх з'яўляецца санорным, шырока вядомы ў прастамоўі, у паэзіі, і не толькі ў беларускай мове, але і ў іншых славянскіх, але там ніхто не збіраецца арыентаваць літаратурную норму на прастамоўе, бо сёння, прабачце, не часы Вука Караджыча, а канец XX стагоддзя.

Адна з істотных думак А. Яжэвіча такая: трэба замацоўваць свае спецыфічныя беларускія формы, адмаўляючыся ад нехарактэрных, чужых, паланізмаў і русізмаў. Але і тое, што ён сам прапануе, з'яўляецца хутчэй за ўсё паланізмамі, напрыклад *мэтро, сфэра, прэзэнт, катэдра*. Так большасць беларусаў не гаворыць!

Назвы жанчын па прафесіі аўтар прапануе ўтвараць з дапамогай суфіксаў *-к* і *-ц-*. Ну добра, няхай сабе будуць словы *прафесарка, рэктарка, консулка* і г. д. Здаровы смех, як кажуць, — шклянка смятаны.

Яжэвіч не разумее, што нельга пяром, седзячы ў кабінеце, накіроўваць развіццё мовы. Ёсць моўная структура, пэўныя ўнутрымоўныя законы — не цалкам аднолькавыя для розных узроўняў мовы. Не ўлічваць гэтага немагчыма. Калісьці, у першай палове нашага стагоддзя, акадэмік Л. У. Шчэрба прагназіраваў, што праз 50 гадоў слова *пальто* ў расійскай мове будзе скланяцца. Дык то быў адзін з самых разумных лінгвістаў! А потым — зноў тое самае: прадмет гаворкі А. Яжэвіча не належыць да мовы, бо мяккі знак, ці напісанне суфіксаў, ці кропка пасля лічэбніка ў канструкцыі *пасля 25 сакавіка* ўвогуле не датычыць мовы як такой. Гэта знешнія ў адносінах да мовы з'явы. Ад таго, ці мы будзем пісаць мяккі знак ці не, слова *снег* будзе вымаўляцца с'н'ех (сьнех), а тое, што беларускі гук [с'] мякчэйшы, чым адпаведны расійскі, мяккі знак не занзначае! Гэта правілы фанетыкі і арфаэпіі, а не арфаграфіі.

Урэшце IV раздзел. Па-першае, незразумела, чаму аўтар узяў менавіта герунд, інфінітыў, пэрфэкт і г. д. Чаму, напрыклад, няма квалітатыва, персанальнасці, маскуліннасці, таксіса, дуратыва, квантыфікацыі і іншых семантыка-граматычных катэгорый і значэнняў, якія аб'ектыўна існуюць у структуры беларускай мовы?

Па-другое, чаму гэта нашы вучні і настаўнікі не ведаюць пра інфінітыў? Ён называецца іншым тэрмінам — неазначальная форма дзеяслова, але ж сутнасць тая самая! Дык ідзе гаворка, каб увесці новы тэрмін, і ўсё? Сапраўды, вялікае адкрыццё. Альбо *герунд* — яму адпавядаюць аддзеяслоўныя назоўнікі, а таксама дзеепрыслоўныя ў сучаснай літаратуры. Навуковай. І вучням, і настаўнікам гэта паняцце (менавіта — паняцце), канешне, вядома.

Я паважаю газету «Наша слова», таму параіў бы яе рэдактарам патрабаваць ад аўтараў навуковасці і адказнасці перад чытачом.

**Алесь КІКЛЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

**Ад рэдакцыі:** У лісце аўтар зрабіў яшчэ адну заўвагу А. Яжэвічу. Яна датычыла перадачы на пісьме выбуховага гука [г], які звычайна перадаюць лацінскай літарай. Яна была ў рукапісе, але мы паставілі кірыліцкае *г*, бо ў друкарні не згаджаюцца набіраць лацінскія літары.

І яшчэ пра інфінітыў. А. Яжэвіч, на наш погляд, вельмі коратка, але трапна паказаў яго ролю ў стылістыцы: з інфінітывам сказ становіцца стройным, лёгкім. Менавіта на гэтую ўласцівасць неазначальнай формы дзеяслова (неопределенной формы глагола) варта звярнуць увагу тым, хто вучыцца, і тым, хто вучыць.



# Кароткі слоўнік эканомікі

*Рээкспарт* — адзін з відаў экспарту, пры якім ажыццяўляецца вываз за мяжу раней увезеных тавараў, якія ў рээкспартнай краіне не перапрацоўваліся. Аб'ектамі рээкспарту часцей за ўсё бываюць тавары, якія прадаюцца на міжнародных аўкцыёнах і таварных біржах. Значная частка рээкспартных аперацый праводзіцца на тэрыторыі «свабодных зон». Рээкспартныя аперацыі могуць праводзіцца і без завозу тавару ў рээкспартную краіну. Такія аперацыі робяцца гандлёвымі фірмамі, каб атрымаць прыбытак дзякуючы розніцы цэн на адзін і той жа тавар на розных рынках.

Тавары, часова вывезеныя за мяжу (напрыклад, на кірмаш, выставу) і прададзеныя пасля ў трэціх краінах, да рээкспартных не адносяцца. Правоз тавару транзітам праз краіну таксама не лічыцца рээкспартам.

*Трэйдэр* — работнік брокерскай фірмы, які непасрэдна выконвае заказы кліентаў на куплю-продаж акцый у гандлёвай зале біржы. Каб мець сваіх трэйдэраў на біржы, брокерская фірма павінна ўступіць у члены біржы.

# ШЭДЭЎРЫ СУСВЕТНАЙ ПАЭЗІІ ПА-БЕЛАРУСКУ

*Рубрыку вядзе*

*Лявон* **БАРШЧЭЎСКІ**

Паэты «Плеяды», якія жылі ў Францыі ў XVI стагоддзі, бачылі мэтай сваёй творчасці стварэнне нацыянальнай паэзіі на роднай, французскай мове, якая б у сваёй мастацкай дасканаласці не саступала найлепшым творам антычнай і сучаснай ім італьянскай літаратуры. Найбольш яркай зоркай сярод сямёркі «Плеяды» быў, бадай што, П'ер дэ Рансар (1524—1585), пераклады трох санетаў якога змешчаны ніжэй.

*П'ер дэ РАНСАР*

Калі бывае, што ўбаку, адна,
Сядзіш ты, задуменная такая,
Ва ўладзе мар, куды не дападае
Ні навакольны тлум, ні гамана,—

Як я хачу твой смутак разагнаць,
Загаварыць з табою, дарагая!
Ды хваляванне горла зацінае,
І я нямею, ўзрушаны да дна.

Бо твой пагляд, праменны і журлівы,
Рантоўнай хваляй слодычы шчымлівай
Захліствае істоту ўсю маю.

І толькі ўздых, і толькі твар збялелы,
І толькі смутак мой і выдаюць,
Як я кахаю, як душа збалела.

* * *

«Заўчасна скроні ўбеляцца твае,
Твой дзень яшчэ да вечара ўчарнее,
Ад мар тваіх адвернецца надзея,
І без пары апошні час праб'е.

Твой спеў душы не ўскалыхне мае,
Усё, чым ты жывы, на пыл развею,
О, ашукаць паэтаў я умею! —
Твой горкі ўздых нашчадак асмяе.

Ты толькі плёткі выклічаш па людзях,
З пяску свае палацы ўзводзіць будзеш,
Дарэмна высяў прагнуць будзеш ты!»

Так мне сказала німфа-шаляніца,
І ў небе ясным бліснула зігзіца —
Як знак яе прарочай праваты.

* * *

Нябёсы, ветры, горы і даліны,
Лясныя нетры, вольныя лугі,
Крынічак плынь, крутыя берагі,
Гаі, палянкі, выгарбкі, лагчыны,

Замшэлыя пячоры, баравіны,
Узлессі, нівы, паплавы, лагі,
Вы — скалы, плёсы, кветкі, мурагі —
Майго натхнення шчырая сябрына,—

Я мушу ехаць, боль мой невыносны:
Не змог сказаць «бывай» вачам даівосным,
Чый погляд зблізку і здалёк лаўлю.

О неба, ветры, нівы, поймы, горы,
Лясы, паляны, ручаі, пячоры,—
Скажыце ім маё «бывай», малю!

**Пераклад з французскай**
**Ніны МАЦЯШ.**

## *Мама, пачытай!*

*Васіль ЖУКОВІЧ*

## Вавёрачка і зубраня



***Аднойчы неяк у нядзелю***
***сям'я зуброў***
***па тэлевізары глядзела***
***канцэрт звяроў.***
***Там быў адзін выдатны нумар:***
***вавёрачка чытала гумар.***
***Яна так хараша чытала,***
***так натуральна жартавала,***
***аж пазайздросціла зубрыха,***
***свайго малога папракнула ціха:***
***— А ты хіба, маё дзіцятка,***
***так, як вавёрка, не змагло б?..***
***Ды зубранятка***
***паморшчыла шырокі лоб,***
***пасля крутнула смешна мызай:***
***— Хіба ж я ўлезу ў тэлевізар?***

## Сонца забаўляецца



***Едучы ў аўтобусе,***
***Волечка ўсміхаецца,***
***Волечка здзіўляецца,***
***У вакно глядзіць:***
***сонейка вясёлае***
***з ёю забаўляецца —***
***хутка за аўтобусам***
***мячыкам ляціць.***
***Вось т-а-а-к.***

## Арэшкі
*(Пацешка)*



***З лесу ўчора наш Алежка***
***у кішэньцы***
***нёс ласункі — нёс арэшкі***
***сястры Жэньцы.***
***Ды не ўбачыла арэшкаў***
***сястра Жэнька,***
***бо дзіравая Алежкава***
***кішэнька.***
***Будзе гай у чыстым полі,***
***дзе арэшкі***
***ўсе пасеяў мімаволі***
***наш Алежка.***

## Загадкі з адгадкамі

***— Крыўляецца хлопчык,***
***як малпа-макака...***
***— Адгадка знайшлася:***
***той хлопчык — крыўляка.***

***— У ход пускае кулакі***
***у часе спрэчкі ўсякай...***
***Што гэта за «герой» такі?***
***— Ён не герой, а забіяка.***

***— На просьбу памагчы***
***адкажа лёгка: «Ай...»***
***І хто ж гэта такі?***

***— Вядома, хто — гультай.***

***— Не ведае нічога,***
***да ведаў не імкнецца.***
***Ці чулі пра такога?***
***— Ён невукам завецца.***




*Алег* **БЕМБЕЛЬ**

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—32).*

...Ну, О...!.. От музыки — и к такому... И так!.. И много вас?.. Много ли силы у К...?..

(— Колькі Бог даў...)

...............

— ...Жить интересно... Наблюдать интересно... Но не рискуете ли вы превратиться в наблюдателей?.. Что же тогда будет?..

(...паказваючы на тэлеэкран...) — Вось сучаснае «масавае мастацтва»... Як казаў Алесь, мастацтва лямантуе... Яно першае кідаецца пад ногі цывілізацыі...)

— ...Когда сталкиваешься с таким... хочется начать с системы... (с того, что могло бы дать тебе эту систему... это ядро...)

(паказваючы на Міхала Федароўскага і Сакрата) — Вось яно — гэтае ядро...).

**(Каля 30 гадоў, руская, сацыёлаг)**

...Подборку прочла с большим удовольствием... Всё мне понравилось...

Исчезнет ли белорусская мова?.. Останется ли она достоянием ограниченного круга людей?.. Обоснованный ответ именно на эти конкретные вопросы мне сейчас трудно дать. Я просто недостаточно глубоко знаю ситуацию...

Но я попробую сказать несколько слов о значимости родного языка вообще — и вытекающих отсюда возможностях и необходимости его сбережения, сохранения...

Родной язык — это ведь история народа, нации, путь развития цивилизации народа, его национальной культуры. Народ веками развивает, совершенствует своё гибкое, неисчерпаемое орудие мысли, чувств, надежд, своего будущего... Поэтому сохранение, сбережение родного языка, национального языка является не праздным занятием от нечего делать, а насущной необходимостью. Это во-первых. А во-вторых, знание родного языка — это вопрос нашей общей образованности и вопрос образования каждого. Родной язык — это прежде всего Пушкин, Лермонтов, Тургенев, Толстой, Чехов. Язык Толстого, Добролюбова, Чернышевского — велик, могуч,— писал Ленин. Я не мыслю образованного белоруса, который не знал бы язык Купалы, Танка и других своих классиков. Мы должны сохранять и применять наследие наших классиков.

Чувство родного языка — это свидетельство патриотизма, того, что человек знает и любит свою родину, места, где он родился и стал человеком. Вспомним Карамзина: «Без языка нет патриотизма». Тургенева: «Во дни сомнений, во дни тягостных раздумий о судьбах моей родины ты один мне поддержка и опора, о великий, могучий, правдивый и свободный русский язык... Не будь тебя, как не впасть в отчаянье при виде того, что совершается дома? Но нельзя верить, чтобы такой язык не был дан великому народу»... Или Паустовского: «По отношению человека к своему родному языку можно совершенно точно сказать не только о его культурном уровне, но и о его гражданской ценности...»

Поэты ваши размышляют о возможности, со временем, слияния языков в один («...калі мова мая ўліецца ў агульны людскі акіян...» — так, кажется, у Барадуліна). Здесь есть рациональное зерно в том, что развитие медицины, техники, науки, усложняясь, требует объединения усилий всех народов и, соответственно, единого средства общения. Это — рациональный момент. Но есть и иррациональные моменты, отражающие душу нации, народа,— и тут без родной речи не обойтись, ибо она отражает самые сокровенные, интимные струны, движения души... Родной язык во всём своём волшебном богатстве раскрывается перед теми людьми, которые досконально знают свою землю, свой народ...

Блок:

Россия, нищая Россия,
Мне избы серые твои,
Твои мне вёрсты ветровые,
Как слёзы первые любви.

Есенин:

Чёрная, потом пропахшая выть,
Как мне тебя не ласкать, не любить...
...И душа моя, поле безбрежное,
Дышит запахом мёда и роз...

Очень понравилось у Максима Танка: нет на земле того счастья и горя, которые не могла бы передать белорусская речь...

Барадулин: ...если замолчит моя речь...

Для некоторых вещей годится та же самая латынь. А родная речь — это для души, для сути национальной культуры. До тех пор, пока народ сознаёт свою уникальность, свою специфику, ощущает свою душу — до тех пор будет жить и развиваться национальный язык. А чтобы язык развивался молодыми поколениями — их нужно учить... Чтобы они постигли одухотворённость родного языка — наряду с достижениями технического прогресса...

(— Вы да нас здалёк прыехалі?..)

— Родилась я в Комсомольске-на-Амуре... Родители строили этот город... В Белоруссии с 1962 года...

...Я исхожу из уважения... из уникальности русской культуры. А исходя из уважения к русской культуре, я, естественно, уважаю всё ценное, уникальное в других культурах...

...«Нарочанские сосны» Максима Танка... Прекрасно!..

...Своеобразная глухота — непонимание национальной культуры... А если человек глух, то с него и нельзя требовать... Это вопрос воспитания...

(— Як вы мяркуеце: чаму многія беларусы ненавідзяць сваю мову, сваю культуру — болей, нават, за многіх «інародцаў»?..)

*(Працяг будзе).*

Горас МАККОЙ

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у № 32).*

## II

Наша поле ляжала на паўдарозе паміж ірыгацыйным каналам і эўкаліптавым гаем, да якога мы павінны былі кінуцца, пачуўшы сігнал. Мы збіралі дыні і складвалі іх у невялікія піраміды. Працуючы, мы паступова набліжаліся да гаю. Біерс прывязаў свайго каня да дубка, што рос каля поля, і, седзячы ў цяню, пыхкаў люлькаю, паглядваў за намі.

Мы з Тока працавалі поруч, трохі ўбаку ад астатніх з нашай групы, у якой быў і Бадланг. Мне і праўда шанцавала гэтым разам. Цяпер я ўжо мог не баяцца праколу, усё ішло як мае быць.

— Можа, час ужо? — спытаўся Тока.

— Часу яшчэ навалам, — адказаў я.

У мяне ніякага страху не было. Я адчуваў, што ўсё ў поўным парадку.

— Час ужо...

— Не глядзі на сонца. Яно цяпер хутка падымаецца. Яшчэ толькі сем, не болей.

Я аднёс дыні ў піраміду і, вярнуўшыся, сказаў Тока:

— Ну што, я пачынаю. І прашу цябе, не мітусіся. Чуеш?

— Чую, — адказаў ён.

— Туалет, пан Біерс! — крыкнуў я.

— Туалет, група другая! — крыкнуў Біерс наглядчыку суседняй групы, каб папярэдзіць, што ён будзе адсутнічаць некалькі хвілін. — Гэта ты зноў? — сказаў ён, падышоўшы да мяне.

— Здаецца, зноў прыхапіла. Жывот баліць, — сказаў я.

— Добра, пайшлі, — буркнуў Біерс.

Я пайшоў да будкі. Біерс ступаў за мною, не зводзячы з мяне вачэй.

— Шкада, што я вас непакою, пан Біерс— сказаў я, не азіраючыся.

Ён з усяе сілы ўдарыў мяне нагою па нырках — я ажно на зямлю ўпаў.

— Не рабіце гэтага больш, калі ласка, — сказаў я.

Ён зноў ударыў мяне нагою.

— Не заседжвайся! — рыкнуў ён ужо каля прыбіральні.

— Добра, пан Біерс, — сказаў я, падымаючы край брызента, і ўзлез на воз. Сеў і пачаў назіраць за Біерсам з адтуліны ў брызенце.

Ён спыніўся метраў за шэсць-сем ад мяне, і я зразумеў: зараз ці ніколі.

Я асцярожліва падабраўся да задняга краю брызента, прыўзняў яго, зірнуў: з таго боку ўсё было ў парадку. Спусціўшыся ўніз, папоўз да камення, уціскаючыся ў зямлю.

Калі дабраўся да піраміды дыняў, складзенай мною з Тока тры дні назад, стала нашмат лягчэй: гэта было неблагое прыхованішча, за якім я мог пачуваць сябе спакайней, — я крыху прыўзняўся і ўжо не поўз, як чарвяк.

І вось, нарэшце, — камень...

Канал быў шырокі, але зусім неглыбокі. Я апусціў рукі ў ваду, асцярожна пачаў вадзіць імі па дне. Намацаў! Дастаўшы камеру, адкрыў прывязаны да яе сцізорык і надрэзаў гуму. Цяпер у мяне ў руках былі два зараджаныя рэвальверы і дзве абоймы патронаў. Рэвальверы былі 38-га калібра — не бог ведае якія, але зараз неацэнныя для мяне. Я засунуў рэвальверы і абоймы пад сваю паласатую робу і папоўз назад.

Колькі ўсё гэта забрала часу, цяжка сказаць, але наўрад ці больш як тры хвіліны. Зрэшты, за гэты этап уцёкаў я ніколі не хваляваўся, я пачуваў сябе здатным зрабіць усё найлепшым чынам, але ўжо зараз небяспека мусіла адно павялічвацца — нітка рызыкі, якая вось-вось магла разарвацца, нацягвалася ўсё мацней. І ўсё ж я трымаў сябе ў руках. Такі чаканы момант нарэшце настаў. Сто разоў паўтарыў я сабе, што як толькі перадам Тока ягоны рэвальвер, то адразу ж перастану лічыцца з гэтым смаркачом...

Вярнуўшыся ў прыбіральню, я зноў пачаў назіраць за Біерсам праз адтуліну ў брызенце. Біерс не сышоў са свайго месца, але ўжо глядзеў у мой бок з непрыхаваным раздражненнем. Праўда, у ягоным позірку не было ніякай занепакоенасці — адно нецярпенне. Я наўмысна гучна пашуршэў папераю, потым устаў, строс з сябе пыл, выцер папераю рукі: на іх, яшчэ вільготных, засталося крыху граязі. Паправіў рэвальверы, каб яны не выпіралі, і выйшаў.

— Не надта рана! — сказаў Біерс. — А я ўжо думаў, што ты ў ачко праваліўся! Хадзем.

Сагнуўшыся, Тока завіхаўся над дынямі. Убачыўшы, што я вяртаюся, ён спыніў працу, праўда, не змяніўшы паставы, і скрыва зірнуў на мяне. Я паказаў яму мігам, што ўсё ў парадку, і нахіліўся побач з ім. Асцярожна агледзеўшыся, упэўніўся, што на нас ніхто не глядзіць, і, перадаў яму рэвальвер. Тока схаваў яго пад робаю.

— Зараджаны? — трывожна спытаўся ён.

— А то не! Можаш супакоіцца. Справа, лічы, зроблена.

З гор данёсся шум матора аўтобуса — мы пераглянуліся.

— Бачыш, як усё ідзе, калі ў справе знаўца? — сказаў я. — Быццам мы адсюль усім кіруем. А зараз суньця націху ў бок эўкаліптаў. Чым менш нам прыйдзецца бегчы, тым бяспечней.

— Ты думаеш, яны будуць страляць?

Ну і пытанне!

— Запомні: бегчы трэба пятляючы. Ад самага пачатку — пятляючы.

Ён зноў зблядзнеў.

— Сунься патроху да эўкаліптаў. І рабі ўсё, як я.

Сагнутыя, мы рушылі ўперад, робячы выгляд, што шукаем дыні, і праз дзве-тры хвіліны дайшлі да групы, у якой быў Бадланг.

— Прывітанне, мілок! — сказаў ён мне, потым звярнуўся да Тока: — Ты ўжо ласкавей з ім. — І, нарэшце, астатнім: — А я яго таксама добра аддубасіў бы.

Усе зарагаталі.

— Ты, я бачу, знямогся па мне, — сказаў я.

Бадланг усміхнуўся, але адказаць не паспеў: да нас падышоў Біерс.

— Хопіць трындзець. За працу! — незадаволена буркнуў ён.

Мы зноў зашчыравалі, і тут адзін за адным пачуліся два гудкі клаксана. Гэта быў яшчэ толькі сігнал сабрацца, а не бегчы, але раз ужо Біерс быў так блізка ад мяне, а Тока зусім раздрыжэўся, то я падумаў, што час наспеў. Дый, здалося мне, Біерс нешта ўжо ўнюхаў. Ён ступіў крок назад, схапіўся інстынктыўна за карабін, але я ўжо паслаў яму кулю ў жывот.

Куля трапіла Біерсу ў вузенькі прамежак кашулі паміж курткаю і штанамі. Карабін выпаў з ягоных рук, а сам ён, скурчаны, абваліўся на зямлю.

— Бяжы! — крыкнуў я Тока.

Бадланг здранцвеў, няздатны павярушыцца.

— Ну што, мілок, — усміхнуўся я, — бачыш, як здзяйсняюцца мары?

Ён усё яшчэ стаяў як укапаны. Нават калі я выцягнуў уперад руку з рэвальверам, ён застаўся нерухомы — толькі вочы быццам акругліліся ад жаху. Дула рэвальвера было сама болей за паўметра ад ягонага твару. Я націснуў на курок, і куля ўвайшла яму ў правае вока — з яго пырснуў струмень, павека ўмомант упала, закрыўшы дзірку. Ніводнай кроплі крыві.

Я крута развярнуўся і з усяе сілы кінуўся ў бок гаю, нахіляючыся ўперад настолькі, каб не запавольваць бег. У мяне бесперапынна стралялі ўсе наглядчыкі, але Бог яго ведае, калі яны апошні раз пускалі ў ход свае карабіны...

Неўзабаве я ўбачыў уперадзе ногі Тока. Калі я нагнаў яго, ён раптам спыніўся і азірнуўся: на твары ў яго, здавалася, былі ўсе страхі, якія спрадвеку перажыло чалавецтва.

— Мне страшна, — сказаў ён.

Я прабег яшчэ некалькі метраў, затым крыху прыпыніўся і азірнуўся сам. Харыс даганяў мяне на кані, але скакаць па гэтым няроўным полі жывёліне было не надта зручна. Тока адставаў ад мяне метры на тры. Я глядзеў на Харыса, але, націскаючы на курок, цэліў у Тока. Куля трапіла яму ў скроню, на вуснах у яго выступіў шум, і ён грымнуўся вобзем.

Я зноў кінуўся бегчы. Наглядчыкі ўсё стралялі, але побач са мною не прасвісцела ніводная куля. Бізуном гэтыя недавяркі валодалі адмыслова, але што датычыць стрэльбы...

Я дабег нарэшце да ўскрайку поля, скочыў у першы ірыгацыйны канал, потым у другі, вузейшы, і кінуўся ў гай. Ужо там я ўпершыню пачуў свіст куляў, а неўзабаве яны праляцелі зусім побач са мною. Ашаломлены, я прыўзняў на момант галаву і ўбачыў, што гэта страляў з аўтамата, з процілеглага боку гаю, нейкі зусім невядомы мне чалавек у блакітным касцюме, кепцы і з гальштукам-бабачкай.

Угледзеўшы там яго, а не чаканую Холідэй, я адчуў сябе паралізаваным. Адчуванне было такое, што мне з усяе сілы ўрэзалі ў пераноссе — ці не іскры з вачэй пасыпаліся.

— Заходзь за мяне, з другога боку! — крыкнуў ён мне, і я зразумеў, што гэта быў зусім не мужчына, а Холідэй!

Я ўзняўся, зайшоў за яе. Кінуў позірк на дыннае поле. Харыса на кані не было відаць. Зняволеныя ляжалі, уткнуўшыся тварамі ў зямлю, а наглядчыкі, прысеўшы, па-ранейшаму стралялі — усё міма. Яны былі цяпер метраў за дзвесце ад нас. Холідэй стрэліла апошні раз і апусціла аўтамат.

— Хадзем, — сказала яна, заглыбляючыся ў гай.

Нас чакала непадалёк, на земляной дарозе, новенькая прыгажуня-машына з закрытым кузавам. Матор быў уключаны, за рулём сядзеў Джынкс. Убачыўшы, што мы выходзім з лесу, ён адчыніў заднія дзверцы, і мы ўскочылі ў машыну. Як толькі дзверцы з трэскам зачыніліся, яна рванула з месца, што чорт. Холідэй адкінулася на сядзенне і перазарадзіла аўтамат.

— Ну і ну, — залюбаваўся я, гледзячы на яго, — вось гэта штука!

— Пазычыла ў аднаго сябра, — сказала Холідэй. — Ужо другога брата выжлы забіваюць, — дадала яна павольна.

— Бедны Тока... Азірнуўся не ў час... Лепей бы і не ўцякаў...

Кіўком галавы яна паказала на кардонныя скрыні.

— Пераадзенься. Выбачай за чаравікі.

— Чаравікаў няма?

— Ёсць, але толькі сорак другога памеру. Сорак трэцяга не знайшла.

— А, нічога! — усміхнуўся я такой драбязе і зірнуў у першую скрыню. Там ляжалі касцюм, кашуля, чаравікі і шкарпэткі. Усё таннае, але ўсё ж такі...

— Гэта рэчы Тока, — сказала яна. — Твае — у другой.

Яна дастала з трэцяй скрыні рупліва складзеную сукенку. Потым зняла кепку і ўскудлаціла валасы.

— А файная была ідэя, — сказаў я, — перадзецца ў мужчыну.

Яна ўсміхнулася і пачала сцягваць з сябе штаны. Мяне аж гарачынёю абдала — ногі ў яе былі неверагодна прыгожыя, як, мабыць, і ўсё астатняе...

## III

Мы праехалі праз цэнтр горада і апынуліся ў раёне складоў. Там Джынкс скіраваў машыну да гаража, над дзвярыма якога вісела шыльда: «Гараж Мэйсана», — і заехаў углыб яго. Як толькі мы выбраліся з аўтамабіля, да нас падышлі два чалавекі.

Першы, гадоў трыццаці, неяк вельмі дробненька тупаў. На ім быў вельмі чысты камбінезон, на правай кішэні было вышыта імя: «Нэльс». У адной руцэ ён трымаў дзве бляхі са сцёртымі нумарамі, у другой — два маленькія гаечныя ключы. Ні слова не кажучы, ён пачаў здымаць з нашай машыны нумарныя бляхі.

Другі чалавек, з выгляду гадоў сарака, толькі яшчэ набліжаўся да нас. Ён падскокваў, і я заўважыў, што ў яго скрыўленая ступня. Спяцоўка ў яго была брудная, без якогась надпісу...

— Дык, значыць, Тока забілі, — сказаў ён, падышоўшы.

Мы з Холідэй здзіўлена пераглянуліся: з моманту гібелі Тока прайшло ўсяго толькі дзве гадзіны. Аднак не паспела Холідэй адказаць, як ён абышоў машыну і ўважліва яе агледзеў. Потым адчыніў дзверцы — заднюю, пярэднюю, — агледзеў сядзенні.

— Ён, мабыць, пачуў гэта па радыё, — сказала Холідэй.

— Вядома, па радыё, — пацвердзіў Джынкс.

— Я нічога не чула, — сказала Холідэй.

— А як ты магла пачуць? Ты ж была занятая! — падмаргнуў мне Джынкс. Таксама, значыцца, угледзеў яе бабскія вартасці.

— Што за ён? — запытаўся я ў Холідэй, кіўнуўшы ў бок крываногага, які ўсё яшчэ вышукваў нешта ў сярэдзіне машыны.

— Мэйсан. Гэта ён дастаў мне рэвальверы.

Крываногі вярнуўся да нас. Чалавек на вачах змяніўся: палагоднеў, ад насцярожанага неспакою — ані следу.

— Як паслухаць радыё, — сказаў ён, — дык «Зефіра» павінна быць прадзіраўленай, што шумоўка.

— Сам бачыш, — сказала Холідэй, — усё прайшло як мае быць.

Мэйсан у адкрытую змераў мяне позіркам з ног да галавы.

— Ральф Котэр, Вік Мэйсан, — пазнаёміла нас Холідэй.

— Здаецца, ты прыкончыў усіх, хто сядзеў у цябе на хвасце, — сказаў мне Мэйсан.

— Гэта так па радыё сказалі? — спытаўся я.

— Прыкладна. Ім здалося, што разам з табою іх атакавалі пяць ці шэсць чалавек, — усміхнуўся Мэйсан.

— Перадалі мае прыкметы?

— Ат, лухта! Выглядаеш ты значна лепш, чым яны распавялі.

— Ты яшчэ ўбачыш мяне ў касцюме па мне.

— Убачу. Я маю з-за чаго цікавіцца табою, — сказаў ён і адразу ж некуды адышоў.

— Што ён хоча гэтым сказаць? — запытаўся я ў Холідэй.

Джынкс склаў рукі ў нецярплівым жэсце:

— Мне ўжо час вяртацца ў краму. Убачымся пазней? — сказаў ён мне.

— Дзякуй, Джынкс... — пачаў я.

— Годзе, годзе, — абсек ён мяне і рушыў да выхаду.

— Што за крама? — запытаўся я, паварочваючыся да Холідэй з Мэйсанам.

*(Працяг будзе).*

